*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 73(655)**

Аўторак, 27 красавіка 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля



Постскриптум

## В ФРГ по-прежнему считают Верховный Совет единственным легитимным высшим законодательным органом Беларуси

20—22 апреля делегация Верховного Совета Беларуси в составе: Семен Шарецкий (председатель), Мечеслав Гируть, Сергей Калякин, Владимир Башаримов, Анатолий Лебедько, Станислав Шушкевич и Валентина Святская находилась в Федеративной Республике Германии.

Совсем недавно в Бундестаге — нижней палате парламента ФРГ — произошли выборы. Сформирован новый бундестаг, а в его структурах образовалась германо-белорусская парламентская группа, которую возглавила известный немецкий политик Юта Цапф. Эта группа и стала инициатором приглашения делегации Верховного Совета 13-го созыва, который в ФРГ по-прежнему считают единственным легитимным высшим законодательным органом Республики Беларусь.

Подтверждением этому служит тот факт, что делегацию принимал президент бундестага Вольфганг Тирзе. Он подчеркнул, что новый состав бундестага будет проводить в отношении Беларуси ту же политику, которой придерживались их предшественники в немецком парламенте. Они будут продолжать поиск решения белорусского вопроса цивилизованным мирным путем. Однако это не означает, что позиция бундестага по отношению к президенту Лукашенко будет меняться. Более того, в беседе с белорусскими депутатами Вольфганг Тирзе подчеркнул, что, поскольку его страна председательствует в Евросоюзе, то в меру возможности эту же политику немцы намерены проводить и через Евросоюз. Кстати, подтверждением этому может служить тот факт, что известная резолюция Европарламента в отношении Беларуси была принята как раз по инициативе немецких парламентариев.

Президента бундестага, по словам Семена Шарецкого, интересовали больше всего три белорусские проблемы: глубина конституционного кризиса, работа оппозиции и отношение к недавно прошедшим выборам в местные Советы.

Белорусские депутаты были приняты также статс-министром (что приравнивается в нашей градации к должности заместителя министра) Министерства иностранных дел ФРГ г-н Фольмером. В ходе этой беседы стало известно, что министерство предполагает прислать в Минск представителей так называемой тройки — ФРГ, Австрии, Финляндии, которые встретятся здесь с представителями официальных и оппозиционных структур.

Со слов председателя Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Семена Шарецкого стало известно, что в МИД ФРГ осознают опасность, которую таит для Европы нынешний глава Беларуси. Именно с этих позиций оценивается его поездка в Белград. По мнению немецких дипломатов, она не несет в себе серьезных практических результатов, и ее нужно рассматривать как поездку одного диктатора к другому. Таким образом, Александр Лукашенко в полной мере раскрыл свою сущность.

На встрече со статс-секретарем Федерального министерства экономического сотрудничества и развития (ФМС) г-ном Эрихом Штатером делегация Верховного Совета особо обратила внимание на то, что она не отождествляет режим президента Лукашенко с белорусским народом, а поэтому просит немецкую сторону не сворачивать экономические и торговые контакты. Такой подход нашел понимание у собеседников, хотя они и говорили о том, что было бы благоприятнее развивать сотрудничество через неправительственные организации и общественные фонды.

В центре внимания переговоров на всех уровнях были две проблемы: ситуация в Югославии и предстоящие президентские выборы в Беларуси. Что касается косовского конфликта, то белорусская сторона высказалась в том духе, что бомбардировки, — безусловно, не лучший способ решения вопроса. "Подавляющее большинство населения нашей страны, — подчеркнули гости, — не могут разделить такой подход НАТО, не вдаваясь в подробности самих причин возникновения косовского конфликта".

Депутаты Верховного Совета подробно проинформировали немецкую сторону о той большой работе, которую провели Верховный Совет и Центральная избирательная комиссия по выборам президента как в законодательном, так и в организационном плане, для того, чтобы граждане Беларуси могли высказать свое отношение к кандидатам в президенты. Они обратили внимание немецкой стороны на то, что нынешнему президенту Беларуси также была предоставлена возможность участвовать в выборах. Однако он от этого отказался. Как подчеркнул Семен Шарецкий, сам факт отказа говорит о том, что нынешний глава государства не уверен в успешных для себя результатах выборов. И это неспроста, поскольку в Беларуси царит экономическая разруха, усиливается обнищание населения, страна попала в полосу международной изоляции. В итоге президент Лукашенко не нашел ничего лучшего, как развернуть массовые репрессии против тех, кто задействован в избирательной кампании, включая арест кандидата в президенты Михаила Чигиря.

Белорусские парламентарии рассказали своим немецким коллегам о том, что Михаил Чигирь возглавлял правительство президента Лукашенко и не был замечен ни в каких грехах до той поры, пока осенью 1996 года он в знак протеста против так называемого референдума не сложил с себя полномочия премьера. В то же время многие, кого Александр Лукашенко, будучи кандидатом в президенты в 1994 году, называл коррупционерами, по-прежнему находятся на свободе. Более того, они работают и в президентских структурах, и в так называемом Национальном собрании. И дело здесь не в коррупции, а в отношении к режиму. Когда люди начинают понимать вредность нынешнего белорусского режима и отказываются подчиняться его требованиям, на них начинают возводить поклеп, что заметно на примерах Тамары Винниковой, Василия Леонова, Василия Старовойтова и других.

Немецкие депутаты пообещали своим белорусским коллегам, что они выступят с требованием освобождения Михаила Чигиря, а также арестованных ранее парламентариев Владимира Кудинова и Андрея Климова. Было получено обещание и в том, что не только депутаты Бундестага, но и другие общественные деятели Германии постараются посетить Беларусь в те дни, когда там будут проходить выборы главы государства.

В ходе встречи была приоткрыта и некоторая технология предстоящих выборов, в частности, придется намного чаще, чем обычно, использовать переносные урны. Законодательство, кстати, дает возможность проголосовать досрочно тем людям, которые по разным причинам не имеют возможности высказать свое мнение 16 мая. А такой возможности их лишает правящий режим, тем самым толкая организаторов избирательной кампании на ее растягивание.

**Владимир ГЛОД.**

Стоп-кадр



*Маршал Игорь Сергеев (слева), министр обороны России, и Александр Чумаков (справа), министр обороны Беларуси. Пока российские военные объекты будут на земле Беларуси, до тех пор этим высоким чинам будет о чем говорить. А ведь наша страна когда-то заявила о нейтралитете...*

**Фото IREX/ProMedia.**

## ЗАЯВА

### Сакратарыята Таварыства беларускай мовы

12 красавіка была падпалена яўрэйская сінагога ў Мінску. Яшчэ раней былі зруйнаваныя яўрэйскія могілкі ў розных гарадах Беларусі, апаганены свастыкай шапік ТБМ. З гісторыі Еўропы мы добра ведаем, чым заканчваюцца падобныя з'явы, калі грамадства і дзяржава своечасова не даюць ім рашучай і адназначнай ацэнкі.

Таму мы патрабуем ад уладаў дэталёвага расследавання ганебнага ўчынку, пошуку і пакарання вінаватых. Патрабуем закрыцця ўсіх прафашысцкіх і антыбеларускіх арганізацый і іх філіялаў на тэрыторыі нашай Радзімы.

**Сакратарыят ТБМ**

## Падведзены вынікі першага конкурсу журналістаў "За ўсталяванне свабоды прэсы ў Беларусі"

Дзевяць лаўрэатаў першага конкурсу "За ўсталяванне свабоды прэсы ў Беларусі" абвясціла Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ).

Гэты конкурс ахоплівае вынікі чарговага каляндарнага года і прымяркоўваецца да Сусветнага дня свабоды прэсы — 3 мая. Аўтарытэтнае журы пад кіраўніцтвам Сяргея Ваганава абнародавала першыя вынікі. Ганаровым дыпломам БАЖ узнагароджваюцца журналісты: **Андрэй БАСТУНЕЦ, Аляксандр КОКТЫШ, Пётр МАРЦАЎ, Іосіф СЯРЭДЗІЧ, Канстанцін СКУРАТОВІЧ** (Мінск), **Сяргей БУТКЕВІЧ** (Віцебск), **Мікалай ПАСЕДЗЬКА** (Светлагорск), **Сяргей ЁРШ** (Слонім), а таксама непрафесійны журналіст — аўтар шматлікіх вядомых публікацый **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА.** Уручэнне ўзнагарод плануецца правесці 3 мая.

**БелаПАН.**

## Паўтор праз 204 гады?

**25 лістапада 1795 года ў гродзенскім Новым замку кароль Польшчы Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў адрачэнне ад пасады. У склад Расійскай імперыі ўліліся тры новыя губерні: Віленская, Ковенская і Гродзенская. Сваю долю паводле гвалтоўнага падзелу Рэчы Паспалітай атрымалі хаўруснікі рускага цара — Аўстрыя і Прусія.**

Гродна зноў абраны месцам чарговага далучэння Беларусі да Расіі. У календары, магчыма, з'явіцца яшчэ адзін святочны дзень. 2 красавіка пакінуць днём яднання, а 10 ці 11 мая 1999 года — днём поўнага аб'яднання.

Гродзенскі аблвыканкам распачаў падрыхтоўку да правядзення агульнага сходу парламентарыяў Беларусі і Расіі. Па неафіцыйных звестках, беларускія "палатачнікі" і расійскія "думцы" збяруцца ў зале пасяджэнняў абласнога выканаўчага камітэта 10—12 мая. Павел Шыпук і Анатоль Малафееў будуць вітаць сваіх маскоўскіх калегаў Генадзя Селязнёва і Юрыя Лужкова. А ўсе разам яны сустрэнуць галоўнага інтэгратара Аляксандра Лукашэнку, які, магчыма, прывязе з сабою якога-небудзь святара. У такой справе без Боскай ласкі — не той размах.

Збяруцца, каб аб'яднацца, але жыць будуць паасобку. Мяркуецца, што расіяне — у гасцініцы "Турыст", а беларусы — у гатэлі "Беларусь". Сімвалічна, ці няпраўда? Наша краіна памяншаецца да памераў гатэля, дзе гаспадарам адведзена роля не вышэй за пакаёвак. А правіць баль, як і 204 гады назад, будуць усялякія прыблудныя "турысты".

Вялікая ганьба для беларускага народа рыхтуецца ў Гродне. "Палатачнікі" і "думцы" прыедуць зарабляць палітычныя ачкі перад выбарамі ў свае парламенты, надалей замацоўваць ідавочныя вынікі камуністычнага рэваншу.

А ты, рахманы беларус, зрабіў свой выбар? Ярмо лёгка накідваецца, але цяжка здымаецца.

**Акім ЛАБАНОВІЧ.**

Гродна.

Голас юнай душы

## Божа, даруй нам усім!

Ізноў на двары вясна. Трынаццатая вясна майго жыцця. І трынаццатая вясна чарнобыльскай бяды. Так, я — равеснік Чарнобыля.

Я нарадзіўся ўдзень 26 красавіка 1986 года. А ўвечары тата перадаў маме запіску ў роддом, каб берагла сябе і мяне. І каб у палаце не адчынялі вокны.

Але татава папярэджанне мяне не зберагло. Я (потым расказвала мама) пачаў задыхацца, мне не хапала паветра. Цэлы месяц я адлежаў у дзіцячай бальніцы. Дыягназ — пнеўманія. А можа, я задыхаўся таму, што, толькі з'явіўшыся на свет, удыхнуў атручанае радыяцыяй паветра?

Але пра радыяцыю і яе наступствы трынаццаць гадоў таму гаварыць было забаронена. Не вельмі пра чарнобыльскія праблемы хочуць гаварыць і сёння. Дазваляюць людзям вяртацца ў забруджаную зону, есці хлеб з чарнобыльскіх палёў і — выміраць. Мы, беларусы, знікаем па адным, і кожная сям'я сваю бяду аплаквае ў адзіноце.

Так здарылася і ў нашай сям'і. Дзядуля памёр ад раку. Радыяцыя не выбірае, стары ты ці малы, багаты ці бедны. Яна знішчае нас ціха, без бомбавых удараў. І, як ні шкада, пра чарнобыльскую бяду мы гаворым усё менш і менш, і сродкаў на наша фізічнае выратаванне выдзяляецца ўсё менш і менш. Я ўжо не атрымліваю, як раней, бясплатныя вітаміны, няма і бясплатнага летняга адпачынку.

Толькі раз у год мы прыкладваем усе намаганні, каб заявіць, што мы ёсць, што бяда Чарнобыля стукае ў кожныя дзверы. Гэты дзень — дзень чарговых угодкаў чарнобыльскай катастрофы, калі па традыцыі праходзіць "Чарнобыльскі Шлях" у сталіцы. Уладам, вядома ж, не падабаецца, калі мы, як адно цэлае, з запаленымі свечкамі ў руках ідзём па галоўным праспекце і на ўвесь свет заяўляем: "Людзі свету, дапамажыце нам справіцца з радыяцыяй і выжыць".

Кожны год, пачынаючы з чатырохгадовага ўзросту, я хаджу з мамай на "Чарнобыльскі Шлях". Але самыя жудасныя ўражанні засталіся ад "Шляху", прысвечанага дзесяцігоддзю Чарнобыля. Калі мы многатысячным натоўпам рушылі па праспекце ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці, міліцыя хацела затрымаць і разагнаць нашу калону. Пайшлі ў ход дубінкі, пралілася кроў. Плакалі жанчыны, а вылюдкі ў міліцэйскай форме ірвалі і таптолі выяву Божай Маці Чарнобыльскай. На плошчу Незалежнасці нас не прапусцілі, каб мы не парушылі спакой дзядулі Леніна. Калону прымусілі рушыць да Палаца спорту. І пакуль мы ішлі, на нас сыпаліся ўдары міліцэйскіх дубінак.

Але мы мужна трымаліся, да нас па дарозе далучаліся людзі. У руках у нас гарэлі свечкі. На Нямізе я падышоў да міліцыянта і спытаў: "За што вы нас так?" Міліцыянт апусціў вочы.

Пасля мітынгу я вырашыў прайсці ўсе міліцэйскія кардоны і запаліць чарнобыльскую свечку на плошчы Незалежнасці. Я дайшоў да Чырвонага касцёла — і перадумаў паліць свечку на гэтай плошчы. Я зайшоў у касцёл і паставіў яе там. Сам стаў на калені і сказаў: "Божа, даруй тым, хто ў гэты жалобны дзень стаў віною праліцця крыві на вуліцах горада..." І тады ў мяне з'явілася думка: калі мы ўсе 26 красавіка станем на калені з запаленымі свечкамі ў руках і ў адзін голас скажам: "Божа, даруй нам!", можа, штосьці і памяняецца ў нашым жыцці да лепшага?

...Прайшло тры гады. Жыццё наша ўсё цяжэй і цяжэй. Недаядаюць дзеці, не хапае лекаў, заробкі жабрацкія, і выйсця мы не бачым. Я хачу сказаць усім людзям Беларусі: такое жыццё наша — гэта кара Божая за нашы грахі. Давайце 26 красавіка запалім 10 мільёнаў свечак і скажам: "Божа, даруй нам усім!"

Божа, дай шчасце маёй Зямлі!

**Саша ЛАПЦІК, 13 год.**

Мінск.

**Ад рэдакцыі.** *Гэтую кранаючую споведзь чыстай дзіцячай душы мы атрымалі, на жаль, калі нумар за 24 красавіка ўжо быў падрыхтаваны. Але тое, што піша 13-гадовы Саша Лапцік, мяркуем, не позна друкаваць і сёння.*

*Хай дасць Бог здароўя і ўсяго найлепшага гэтаму цудоўнаму хлопчыку і яго сям'і. Хай спраўдзяцца іх мары аб вольнай, шчаслівай Беларусі.*

## Аб правах чалавека і не толькі

**Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне "Ратуша" арганізавала семінар, прысвечаны абароне правоў чалавека. Сваім доведам падзяліліся госці — прадстаўнікі Польскага Хельсінкскага камітэта ў Варшаве Яраслаў Капчук і Рафал Дземідок, а таксама выкладчыца культуралогіі Браціслаўскага універсітэта Зузанна Мрвова (Славакія).**

Шмат гаварылася пра падзеі, якія адбываліся ў Польшчы на працягу апошніх дзесяці гадоў. Краіна перажыла нялёгкі час. Але здолела выстаяць. Разам з умацаваннем эканомікі і кансалідацыяй нацыі быў шырока абвешчаны прыярытэт правоў чалавека. Прычым не на словах. Свае правы асоба можа бараніць у незалежным судзе, прыцягваючы ў якасці адказчыка нават дзяржаву. Польскі вопыт шмат у чым прыдатны для Беларусі.

Ніхто не думаў і не гадаў, што славацкага пракамуністычнага кіраўніка Уладзіміра Мечара можна будзе змясціць простым галасаваннем. Спадарыня Зузанна засведчыла, што людзі былі вельмі запалоханыя спецслужбамі. Апазіцыю загналі глыбока ў падполле. І тым не менш славацкай дэмакратычнай кааліцыі ўдалося дайсці да выбаршчыкаў, стварыць шырокую сетку назіральнікаў "Вока-98", якія разам з замежнымі калегамі прысутнічалі на ўсіх шасці тысячах выбарчых участкаў. 60 працэнтаў насельніцтва выказалася за радыкальныя змены ў грамадстве. Што да Ул.Мечара, то славакі запатрабавалі, каб ён пакінуў краіну. Паступова знікаюць жабрацтва, карупцыя, злачыннасць, страх.

Славакія здолела вярнуцца ў сям'ю еўрапейскіх народаў, таксама дзякуючы значнаму росту шэрагаў недзяржаўных грамадскіх арганізацый. У часы таталітарызму сюды ўваходзіла 19 працэнтаў дарослага насельніцтва. Адчувалася маральная дапамога з боку Польшчы, АБСЕ, міжнародных фондаў, у тым ліку і тых, якія бароняць правы чалавека.

**Антон ЛАБОВІЧ.**

Гродна.

## Міліцыя затрымлівала распаўсюджвальнікаў улётак, якія заклікалі да ўдзелу ў санкцыянаваным уладамі "Чарнобыльскім шляху-99"

Падчас расклейвання ўлётак з заклікам узяць удзел у санкцыянаваным уладамі "Чарнобыльскім шляху-99" міліцыяй былі затрыманы некалькі актывістаў "Маладога фронту".

4 чалавекі былі дастаўлены ў РУУС Цэнтральнага раёна беларускай сталіцы, дзе на двух паўналетніх былі складзены пратаколы. Яшчэ чацвёра "маладафронтаўцаў" былі затрыманы ў раёне Партызанскага праспекта Мінска і дастаўлены ў РУУС Заводскага раёна. У дачыненні двух з іх складзены пратаколы аб расклейванні ўлётак ва неўстаноўленых для гэтага месцах. Усе ўлёткі, а таксама некалькі бел-чырвона-белых сцягоў былі канфіскаваны супрацоўнікамі міліцыі. Пратаколы аб парушэннях будуць перададзены ў адміністрацыйныя камісіі мясцовых райвыканкамаў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

Дажыліся!

## Вязі салому назад!

Ужо некалькі тыдняў запар на большасці дарог Шаркоўшчынскага раёна заўважаецца павышаная міліцэйская актыўнасць. Не, абаронцы правапарадку тут не палююць за небяспечным злачынцам, а ўсяго толькі выконваюць распараджэнне мясцовай "вертыкалі" "Аб забароне вывазу жывёл і кармоў за межы раёна". У гэтай мясцовасці выхад з зімоўкі для большасці гаспадарак выдаўся цяжкім з-за недахопу сена і сенажа, не ўдалося пазбегнуць зніжэння пагалоўя і надояў. У нас цяпер, як і ў нядаўнім савецкім мінулым, многа розуму не патрабуецца, каб выдумаць жорсткія меры, якія датычацца не толькі калгасаў, але і іншых суб'ектаў гаспадарання.

Тым часам у суседнім Глыбоцкім раёне ў калгасе імя Калініна чакаюць не дачакаюцца таго дня, каб вывесці знясілены статак на азіміну ці першую траўку. Да гэтага часу свой статак кармілі тут на прывазных кармах раз на дзень, а на шэрагу фермаў — і таго менш. Чаму цяпер здзіўляцца недахопу малочных прадуктаў, калі практычна кожная пятая гаспадарка Віцебшчыны ў сёлетнюю зімоўку рэзка знізіла надоі, а дзесяткі гаспадарак вымушаны былі рэзаць кароў, інакш ім пагражала б галодная смерць.

**Уладзімір ШЫК.**


Пр. Антона, Астапа, Івана, Марціна. К. Зіты, Тэафіла.

КРАСАВІК

27

'99 АЎТОРАК

Усход 5.42
Захад 20.34
Даўж. дня 14.52

Поўня
30 красавіка
Захад 6.01
Усход 18.04


## Новае кіраўніцтва Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў мае намер весці з уладамі канструктыўны дыялог

Новае кіраўніцтва Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) правяло прэс-канферэнцыю, на якой пазнаёміла з планамі сваёй працы. У сустрэчы з журналістамі бралі ўдзел прэзідэнт БКДП Віктар Бабаед, віцэ-прэзідэнты, якія адказваюць за канкрэтныя накірункі працы — Марыя Аліева (жаночы рух), Віктар Івашкевіч (інфармацыя, грамадска-палітычныя сувязі), Міхаіл Марыніч (фінансы). Найважнейшы накірунак дзейнасці БКДП — сувязі з уладнымі структурамі — ускладзены на Уладзіміра Макарчука, які адсутнічаў на прэс-канферэнцыі.

Віктар Бабаед адзначыў, што БКДП працяглы час рухаўся ў няправільным накірунку. "Даводзіцца на хаду перабудоўваць дзейнасць арганізацыі, якая апынулася ў вельмі цяжкай матэрыяльнай сітуацыі", — сказаў прэзідэнт Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў. Галоўнае, паводле слоў Бабаеда, — наладзіць нармальны кантакт з органамі ўлады і кіраўніцтва, працаваць у рамках сацыяльнага партнёрства, што і з'яўляецца асноўнай функцыяй прафсаюзаў. "Я лічу, што прафсаюз, які дзейнічае на прадпрыемстве, абавязаны заключаць калектыўную дамову, галіновыя прафсаюзы — мець тарыфныя пагадненні, а кангрэс — удзельнічаць у заключэнні генеральнага пагаднення. Адміністрацыі прадпрыемства больш складана будзе "прабіць" такі "трайны дах", — заўважыў Віктар Бабаед. Ён перакананы, што БКДП трэба супрацоўнічаць і з Федэрацыяй прафсаюзаў Беларускай, бо адсутнасць салідарнасці перашкаджае дасягненню станоўчых вынікаў.

Міхаіл Марыніч лічыць, што правал гэтак званага "веснавога наступлення" працоўных выкліканы ціскам і пагрозамі з боку ўлад, а таксама некаторай стабілізацыяй эканамічнага становішча і павелічэннем зарплаты на шэрагу найбуйнейшых прадпрыемстваў да 60 долараў ЗША. На ягоную думку, рост аплаты працы адбываецца толькі таму, што існуе пагроза забастовак і іншых форм пратэсту з боку працоўных. Але ў выпадку новага "абвалу" цэн і інфляцыі сітуацыя абвастрыцца зноў. "Мы толькі выконваем волю рабочых, — сказаў Марыніч, — якая заключаецца ў дадзены момант ў патрабаваннях па павелічэнні аплаты за працу. Прычым рабочыя мяркуюць за лепшае дамагацца гэтага на перамовах з адміністрацыяй і лічаць забастоўкі і акцыі масавага пратэсту крайняй мерай".

Віктар Івашкевіч адзначыў, што хаця сацыяльны накал сярод рабочых некалькі паменшыўся, у Беларусі працягваюцца лакальныя акцыі пратэсту, забастоўкі на прадпрыемствах. Яны прайшлі апошнім часам на фірме "Лес" у Аршанскім раёне, Магілёўскім аўтазаводзе, брэсцкім "Колератроне", шэрагу прадпрыемстваў Гомеля, на рынках краіны.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Беларуская Ліберальна-дэмакратычная партыя і асацыяцыя падтрымкі рэформ заклікаюць дэмакратычныя сілы Беларусі стварыць адзіны фронт супраць "чырвона-карычневага рэваншу"

22 красавіка беларуская Ліберальна-дэмакратычная партыя (ЛДП) і Асацыяцыя падтрымкі рэформ (АПР) заклікалі ўсе дэмакратычныя сілы Беларусі стварыць адзіны фронт супраць "чырвона-карычневага рэваншу". Пра гэта гаворыцца ў паведамленні, распаўсюджаным прэс-службай ЛДП.

На ідэю падобнага аб'яднання ліберал-дэмакратаў і Асацыяцыю падтрымкі рэформ падштурхнула паведамленне аб стварэнні ў Расіі 22 красавіка перадвыбарчага блоку "Айчына" — "Уся Расія", які, на думку кіраўніцтва ЛДП і АПР, стане "надзейным заслонам на шляху да ўлады пракамуністычных і "чырвона-карычневых" элементаў". "Менавіта пры падтрымцы ўрадавых і парламенцкіх структур Расійскай Федэрацыі, — адзначаецца ў паведемленні, — у рэспубліцы быў створаны нелегітымны парламент, нанесены сур'ёзны ўдар маладой беларускай дэмакратыі і эканамічным рэформам, пастаўлены пад пагрозу дзяржаўны суверэнітэт краіны". Як лічаць лідэры ЛДП і АПР, расійскія "чырвона-карычневыя" сілы "праз сваю пятую калону" аказваюць уплыў на сітуацыю ў Беларусі, "ствараючы на яе тэрыторыі плацдарм для гістарычнага рэваншу". Спыніць наступленне рэваншысцкіх сіл і абараніць Беларусь ад замаху на яе суверэнітэт з боку Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі, па задуме кіраўніцтва партыі і асацыяцыі, і павінен адзіны дэмакратычны фронт.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

## Вёска без... агародаў

Як і раней, сёлета ў калгасе "Зара камунізму" Докшыцкага раёна ўдалося засеяць незвычайнае поле на плошчы больш як сто гектараў. На ім традыцыйна размяшчаюцца зерневыя культуры вяскоўцаў, выведзеныя ў адзін клін. Туэйшыя жыхары ўжо прывыклі, што па ініцыятыве старшыні праўлення У.Новікава не толькі пшанічку, але і бульбу вырошчваць, назапашваць сена дапамагае ім гаспадарка за сімвалічную плату, даглядае ўчасткі і потым дастаўляе ўраджай па хатах.

Таму і не здзіўляе, што на цэнтральнай сядзібе ў Таргунах і іншых вёсках побач з дамамі вяскоўцаў засталіся толькі кветнікі, як у цывілізаваных краінах. Тым не менш кожны гаспадар вырошчвае тут штогод па 6—8 свіней, даглядае па 2—3 каровы, бо мае, чым іх карміць, паколькі калгас прадугледжвае ўсім жадаючым натуральную аплату апроч рэгулярна выплачваемых грошай.

**Уладзімір ШЫК.**

## У Мінску адбыўся пікет, на якім патрабавалася вызваліць з турмы Міхаіла Чыгіра

22 красавіка з 15 да 17 гадзін у Мінску, на плошчы Якуба Коласа, адбыўся санкцыянаваны ўладамі пікет, арганізаваны праваабарончым цэнтрам "Вясна-96".

Асноўным патрабаваннем маніфестантаў было — вызваленне з турмы кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра.

У акцыі ўзялі ўдзел 10 чалавек, у ліку якіх была і жонка М.Чыгіра Юлія. На тратуары быў таксама разгорнуты фотастэнд, прысвечаны парушэнню правоў чалавека ў Беларусі. На фотаздымку былі адлюстраваны сцэны разгону дэманстрацый, арышты іхніх удзельнікаў, суды, партрэты беларускіх вязняў сумлення. Прахожым раздаваліся ўлёткі з інфармацыяй аб сапраўдных прычынах арышту М.Чыгіра, ягоная перадвыбарчая праграма. Наступны пікет, арганізаваны "Вясной-96" і прысвечаны абароне правоў чалавека, пройдзе на гэтым жа месцы 28 красавіка.

**БелаПАН.**

Народная Воля 27 КРАСАВІКА 1999 г.

Стоп-кадр

*Скульптура на фронтоне Дома культуры Белсовпрофа.*
**Фото IREX/ProMedia.**

## Малярыя "прыехала" з Азербайджана

Першы ў гэтым годзе выпадак захворвання на малярыю зафіксаваны ў Магілёве. За медыцынскай дапамогай звярнуўся грамадзянін Азербайджана. Аказалася, што ён заразіўся і прывёз яе са сваёй рэспублікі.

У вобласці гэта ўжо другі за сёлетнюю вясну выпадак. У сакавіку захворванне на малярыю было адзначана ў Бабруйску. І таксама яна завезена з Азербайджана. Два такія выпадкі былі і ў мінулым годзе, і зноў "завозныя" з той жа паўднёвай рэспублікі.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

Здарэнне

## Чортаў тузін — не да дабра

Паводле сведчання Віцебскай ДАІ, такога дарожна-транспартнага здарэння па колькасці яго ўдзельнікаў у абласным цэнтры не было паўтара дзесятка гадоў. Увогуле ў двух легкавых аўтамабілях, якім не ўдалося размінуцца, знаходзілася 13 чалавек: 6 дарослых і 7 дзяцей.

Абедзве машыны, якія сутыкнуліся, былі перагружаны, у адной з іх ехалі 6, а ў другой — 7 чалавек. За рулём адной з легкавушак была жанчына, якая не мела правоў на ваджэнне. У выніку сутыкнення вадзіцель другога аўтамабіля загінуў, 10 чалавек, у тым ліку 6 дзяцей, атрымалі раненні рознай ступені цяжкасці. Вядзецца расследаванне па некалькіх версіях. Згодна з адной з іх, мяркуецца, што прычынай здарэння магла паслужыць перагружанасць салона, з-за няхваткі паветра жанчына за рулём магла заснуць і страціць кіраванне транспартным сродкам.

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

Фельетон

*Іван СІНЯЎСКІ*

## Ці ўсе ў нас дома?

Хопіць! Радыё не слухаю. Тэлевізар адключаю. І без "Рэзананса" ўжо ведаю, што на вярбе грушы растуць. Ад інфармацыі галава ачмурэла, вочы асалавелі. Што робіцца, куды падзецца?! Нідзе няма паратунку. Направа пойдзеш — штраф. Налева пойдзеш — яшчэ большы штраф. Ірванеш наперад — 15 сутак.

Ды і ніхто ўжо нікому не верыць. Сам сабе не верыш. Зарплату атрымаеш — не верыцца. Жонцы грошы прынясеш — не верыць...

Вось такое жыццё...

Аднойчы я ўзяў ды паверыў... прэзідэнту. Быццам дэманстрантам з апазіцыі па дзесяць долараў выдаюць. Ну і кінуўся я на заробкі. Не ўцяміў тады, што дэманстранты-дэмакраты — гэта тыя, што са сцягамі ў першых калонах. Астатнія — суправаджэнне. Так званыя канвойныя дэвізіі ў цывільным. Толькі спытаў я ў апазіцыйным штабе пра баксы, як дужыя хлопцы падхапілі мяне пад рукі і — у пастарунак. Замест баксаў там далі дзесяць сутак і неба ў клетачку.

Ну, скажыце, каму цяпер верыць? Пра суд я ўжо маўчу. Там я вазьмі ды шчыра прызнайся, што паверыў прэзідэнту і хацеў трошкі падзарабіць. А мне за гэта яшчэ дзесяць мінімалак прыплюсавалі: за ілжывыя паказанні. Аказалася, што гэтак наш прэзідэнт пажартаваў...

Нікому цяпер не веру!

А пра жанчыну з чарнобыльскай зоны чулі? Ну гэта тая, што дзесяць год цяжарнай хадзіла. Казалі, што нядаўна разбурылася. Нарадзіла мутанта. Ды яшчэ якога! Маленькі, сівенькі, праўда, без барады. І гаворыць, як першакласнік. Дык ён як нарадзіўся, адразу папрасіўся на вуліцу, каб праверыць асяроддзе, дзе яму прыйдзецца жыць. Схадзіў і хуценька назад у раддом: "Вярніце мяне назад!". Гэта было яго апошняе жаданне.

І Пазьняку не веру. Кажуць, яму Біл Клінтан Белы дом падарыў. Яшчэ гавораць, што адзін маскоўскі багач (іх алігатарамі цяпер дражняць) легендарны крэйсер "Аўрора" выкупіў і нашай замежнай апазіцыі падарыў на ўзбраенне. Цяпер там Зянон Пазьняк эскадру камплектуе для інтэрвенцыі на радзіму.

Розныя чуткі цяпер па Беларусі разносяцца. Вы ж, пэўна, ведаеце, што аднаго старшыню калгаса, важнага такога, дзве зоркі Героя мае, у клетку пасадзілі. Пасадзіць пасадзілі, ды агледзеліся, што не тым бокам пасадзілі. Спачатку арыштавалі, а потым схапіліся за галаву: крыміналу яму не назбіралі. Ну і пачалі награбаць на яго. Па адной версіі, не туды глядзеў. Па другой — не глядзеў, а ўсё бачыў і прадбачваў. Па трэцяй — быццам бы ўкраў замежны вопыт і спрабаваў прымяніць у сваім калгасе. Як падумаеш, аж дрыжыкі бяруць.

А гэты рэферэндум... Ці чулі, што нарабіў на Беларусі? Тры гады прайшло з тае пары, а на нашай зямлі няма суладдзя. Шукаюць яго, але той знік. Хто ён, дакладна невядома. Адны кажуць, што паляк, другія — амерыканец, а трэція сыходзяцца ў думцы, што гэта натавец яўрэйскага паходжання, але з мінскай прапіскай. Але, думаю, знойдуць і пасадзяць. Калі не ён, дык хто-небудзь іншы за яго пасядзіць. Галоўнае, каб хто-небудзь сядзеў!

Вы, пэўне, бачылі не аднойчы, як наш прэзідэнт міністрам свае мазгі ўстаўляе. Стаяць па шнурку, быццам піянеры на школьнай лінейцы. Ён ім кожны раз: "Не любіце вы свой народ!" А яно і без прэзідэнта відаць па іх тварах, што не любяць. А як за "вертыкальшчыкаў" узяўся! Аж пер'е з іх ляціць — гэтак жорстка скубе! Нехта ж яму нашаптаў на вуха: у змоўніцкія зграі гуртуюцца, зброю назапашваюць, апазіцыю моўчкі падтрымліваюць. Гатовыя вось-вось у партызаны падацца. Ой, як наслухаешся, за яйкамі стоячы ў доўгіх чэргах, то аж не да яечні!

А тут яшчэ паводка на нас, як боскае пакаранне, насунулася. Ды НАТО ваяваць пачало. Чаго добрага і да нас дабярэцца! Гэта не мая думка, а чуў у чарзе ад аднаго дзядзькі, што і ў нас Мілошавічы ёсць, і ў нас ёсць людзі, якія церпяць гэтак жа, як касавары ад сербаў... Можа, і праўда, аб'яднацца з Расіяй? Няхай яна сваю ядзерную зброю паставіць у нас. Яны на нас, а мы на іх... Але куды нам! Лепей бы пасядзець ціха, а то два-тры разы бабахнуць — і душа з нас вон!

А можа, замест таго, каб аб'ядноўвацца з Расіяй, Амерыцы сябе прапанаваць? Тыя б хоць долараў далі. І называліся б мы не проста людзьмі, расіянамі, а самымі сапраўднымі сэрамі. Расійцы нас не возьмуць. Самі яны, не вам гаварыць, па свеце жабруюць...

...Я вось вярнуўся з магазіна, тры гадзіны за яйкамі пастаяў, наеўся яечні з ліверкай, ляжу цяпер на канапе і думаю: лухта гэта ўсё, што кажуць. Радзіму, я так думаю, прадаць можна, але купіць — нельга! Няма на свеце такога капіталу. І на сыты страўнік мне прыйшла такая думка: а ці не ўзяць нам за каўнер тых, хто перашкаджае нам самім сваю жытку абладкоўваць, ды шпурнуць іх у азонавую дзірку, што насоўваецца на Беларусь? І ў дадатак да іх — розных інтэгратараў-махінатараў. І зажывём па праўдзе, без лухты і плётак, без спрэчак і інтрыг, без варожасці і зайздрасці. І не трэба нам ні да каго прасіцца, і нікога да сябе далучаць. Мы ўсе ў сябе дома. І ўсе, хто патрэбен Беларусі, таксама дома застануцца. Пазбавімся толькі ад смецця...

**г.Рэчыца.**

## Беларускую нацыянальную ідэю знайшлі ў Гродне?

**У горадзе над Нёманам праведзена міжнародная навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Беларуская нацыянальная ідэя". Ініцыятарам стаўся Каардынацыйны камітэт "Гродзенская ініцыятыва".**

Старшыня аргкамітэта, сябра прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Домаш паведаміў, што тэзісы дакладаў напярэдне даслалі 60 чалавек. Усяго ў канферэнцыі прынялі ўдзел каля 90 асобаў. Было шырокае прадстаўніцтва палітычных партый дэмакратычнага плыні. Запрашэнні атрымалі нават кіраўнікі мясцовых арганізацый ПКБ і ЛДПБ. Аднак яны праігнаравалі мерапрыемства.

Сярод выступоўцаў былі такія вядомыя асобы, як доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, доктар тэхнічных навук Аляксей Саламонаў, доктар фізіка-матэматычных навук Юрый Хадыка, доктар гістарычных навук Яўген Міранович (Беласток, Польшча), доктар гістарычных навук Дзмітрый Караў, доктар медыцынскіх навук Алесь Астроўскі, старшы навуковы супрацоўнік Беларускай Акадэміі навук Іван Саверчанка, ад'юнкт універсітэта Хелена Глагоўская (Беласток, Польшча). Тэзісы выступлення пераслаў па факсе акадэмік Міхаіл Жулінскі (Кіеў, Украіна).

Свае погляды на развіццё беларускай нацыянальнай ідэі выказалі навукоўцы Аляксей Мікуліч, Ігар Мікілашэвіч, Любоў Уладыкоўская-Канапляник, Анатоль Астапенка, Святлана Марозава, Эдвард Зайкоўскі, Алесь Краўцэвіч, Мікола Хаўстовіч, Лявон Баршчэўскі, Валерый Аршэўскі, Юрый Ліхтаровіч і многія іншыя.

Адбылася вострая творчая дыскусія. Удзельнікі канферэнцыі прапанавалі вызначэнне самога тэрміну беларускай нацыянальнай ідэі як у шырокім, навуковым, так і вузкім, масавым, разуменні. Многія прысутныя пагадзіліся, што сёння гэтаму найбольш адпавядае лозунг "Беларусь — наш агульны дом!". Тут арганічна спалучаюцца вечныя і святыя для беларуса каштоўнасці: незалежная ўласная краіна, здаўн інтэграваная ў еўрапейскую супольнасць як самастойная старажытная дзяржава са сваёй гістарычнай хрысціянскай спадчынай і нацыянальнымі асаблівасцямі, і ў гэтым доме гаспадарыць талерантны беларускі народ, ветлівы да гасцей і няздольны да прыхадняў...

Удзельнікі канферэнцыі пагадзіліся не ставіць апошняй кропкі ў вызначэнні беларускай нацыянальнай ідэі. Цяпер трэба заняцца шырокай прапагандай яе асноўных складнікаў, вызначэннем палітычных і эканамічных аспектаў.

Выступленні аўтараў будуць надрукаваны ў зборніку. Выказана пажаданне, каб работа над паглыбленнем зместу беларускай нацыянальнай ідэі мела працяг у будучым.

**Антон ЛАБОВІЧ.**

Гродна.

Из первых уст

## У завода "Форд Юнион" большие планы на будущее

*В марте этого года после долгого перерыва, вызванного прошлогодним августовским кризисом в России, возобновил свою работу завод "Форд Юнион".*

*Чем была вызвана остановка производства? Каковы дальнейшие планы предприятия? На эти и другие вопросы отвечает генеральный директор "Форд Юнион"* ***Нил КЭМПБЕЛЛ.***

— Только сегодня мы потихоньку выходим из той ситуации, которая сложилась на заводе после прошлогоднего кризиса в России.

Как известно, основные покупатели наших автомобилей — страны СНГ и, в частности, Россия. После августовских событий резко упал спрос на "Форды" в Российской Федерации. Мы вынуждены были приостановить производство для обеспечения сбыта уже сошедших с конвейера новых машин. Только в начале этого года дилеры выкупили все автомобили, и в марте мы вновь приступили к работе.

В данное время выпущена небольшая партия автомобилей "Форд-Транзит". В июле планируем приступить к выпуску более "дружелюбных" к окружающей среде "Эскортов". Это будет легковой автомобиль абсолютно новой комплектации с экологически чистыми инжекторными двигателями и другими новинками.

**— Произошли ли какие-либо изменения на рынке сбыта вашей продукции?**

— По-прежнему основным экспортером нашей продукции остается Россия. Все грузопассажирские "Форды-Транзиты", которые мы сейчас собираем на заводе, уходят туда.

**— Удалось ли в полном объеме восстановить экспорт вашей продукции в Россию?**

— Пока об этом говорить рано. Все будет зависеть от запросов рынка. В этом году объемы производства нашего завода будут определяться преимущественно запросами рынка стран СНГ. Сколько конкретно это будет машин, сказать сложно, мы планируем к концу года выпустить 500—600 "Эскортов" и 400 "Транзитов".

**— Учитывая то, что случилось на заводе в конце прошлого года, не рассматриваете ли вы производство "Фордов" в нашей республике как невыгодное?**

— Руководство компании не считает, что производство "Фордов" в Беларуси невыгодно и его надо остановить и закрыть. Более того, в данный момент мы имеем хорошие позиции в "Форд Мотор Компани": для нашего завода предусмотрены скидки и льготы. Это позволило снизить розничную цену на наши автомобили. Я думаю, что, когда активизируется рынок, мы будем на плаву.

**— Вас не волнует политический момент в Беларуси? Я имею в виду то, что со стороны руководства нашей страны может быть оказана более существенная поддержка российским компаниям, чем заводу "Форд Юнион"?**

— Мы работаем на разных рынках и не имеем больших проблем со своими конкурентами. Как правило, для компаний, работающих на одном рынке, обеспечиваются равные условия для их деятельности.

Все конкуренты в этой борьбе ставят на первое место цену. Когда мы говорим о конкурентоспособности, то выделяем и другие составляющие. Такие как качество автомобиля, послепродажное обслуживание машин. С этим у завода "Форд Юнион", на мой взгляд, все в порядке.

**— Значит ли это, что у завода есть долгосрочная программа развития в нашей республике?**

— Любая компания, которая работает на рынке, имеет долгосрочные планы. И наш завод не исключение.

Сейчас, как я отмечал раньше, идет подготовка к выпуску новых "Эскортов". К концу года, может быть, начнем производство "Форда-Мондео". Кроме того, ждем подтверждения на выпуск нового "Форда-Транзита".

**— И последний вопрос. Сколько сегодня рабочих трудится на заводе "Форд Юнион"?**

—138 рабочих, и, смею вас заверить, разговоры о сокращении штатов на заводе не ведутся.

**Беседовала Мария ЭЙСМОНТ.**

## Ленінскі раённы суд Гродна аштрафаваў старшыню саюза палякаў Беларусі за арганізацыю несанкцыянаванага пікетавання і знявагу службовых асоб

Ленінскі раённы суд Гродна на сваім пасяджэнні 21 красавіка прыняў рашэнне аштрафаваць старшыню Саюза палякаў Беларусі (СПБ) Тадэвуша Гавіна на 115 мільёнаў рублёў за арганізацыю несанкцыянаванага пікетавання 17 красавіка і знявагу гонару і годнасці службовых асоб.

Нагадаем, што 17 красавіка гродзенская міліцыя прыпыніла правядзенне несанкцыянаванага пікетавання, арганізаванага СПБ, якое праводзілася пад лозунгамі "Спадар прэзідэнт, вы нас падманулі", "Прэзідэнт Лукашэнка, выканайце свае перадвыбарчыя абяцанні" і "Віцэ-прэм'ер Замяталін, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Бірукова і старшыня Навагрудскага райвыканкама Ліс душаць польскую мову". Такім чынам удзельнікі пікету пратэставалі супраць вывучэння польскай мовы ў выглядзе дыскрымінацыйнай, на іхні погляд, формы факультатываў, а таксама супраць дзеянняў уладаў, якія не даюць дазволу на будаўніцтва польскамоўнай школы ў Навагрудку і не друкуюць польскамоўныя падручнікі. Актывісты СПБ пайшлі на несанкцыянаваны пікет таму, што гродзенскія ўлады двойчы адмаўлялі ім у арганізацыі акцыі ў шматлюдных месцах горада.

У дачыненні да Т.Гавіна была ўзбуджана адміністрацыйная справа па факце парушэння Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях — арганізацыя несанкцыянаванага пікетавання і знявага гонару і годнасці службовых асоб. Другая частка абвінавачання грунтавалася на змесце тэкста аднаго з лозунгаў пікету. Падчас судовага пасяджэння, якое доўжылася тры гадзіны, суд двойчы адхіліў прапановы прадстаўнікоў СПБ аб правядзенні экспертызы зместу лозунгаў і дакументаў, якія адлюстроўваюць абставіны, што змусілі правесці пікетаванне.

У выніку суддзя Сяргей Ярашэвіч прыняў рашэнне падвергнуць Т.Гавіна штрафу. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН старшыня СПБ заявіў, што судзіць трэба было не яго, а вышэйназваных чыноўнікаў, якія груба парушаюць правы польскай нацыянальнай супольнасці, нацыянальнае заканадаўства і Канстытуцыю рэспублікі. Саюз палякаў, паводле слоў Т.Гавіна, будзе працягваць выступленні ў абарону сваіх правоў і збіраецца падаваць новыя заявы на правядзенне пікетаў 10, 11 і 12 мая — у гэтыя дні ў Гродне намечана правядзенне сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

Тупік

## Гары яна гарам такая пасада

Яшчэ пяць кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў у Браслаўскім раёне па розных прычынах сёлета развіталіся са сваімі пасадамі. Кіруючыя крэслы вызвалілі таксама ў гэты ж час дырэктар мясцовага малочнага завода і начальнік участка энерганагляду. І калі ў горадзе на кожную вакантную пасаду падабраны рэзерв кадраў, то ахвотных цягнуць лямку на вёсцы знаходзіцца ўсё менш і менш. Займацца нервовай, знясільваючай штодзённай працай, усведамляючы адсутнасць перспектыў на будучае, па сілах далёка не кожнаму сельскаму спецыялісту.

Калі такое было магчыма, каб напярэдадні выхаду ў поле з неабходных 1700 тон дызельнага паліва, 500 тон бензіну і 120 тон масла раён назапасіў іх адпаведна 240, 40 і 60 тон, каб не хапала для работ на тэхніцы 149 механізатараў, каб заставаліся нявыкупленымі з майстэрні 52 адрамантаваных рухавіка. Жах бярэ кіраўнікоў, калі ведаеш, што дзеля забеспячэння палівам веснавых работ толькі на 70 працэнтаў спатрэбіцца 45 мільярдаў рублёў, якіх невядома чым прыйдзецца аддаваць. Тым часам зверху паступаюць адна за адной каманды: адсеяцца да 1 мая, правесці статак на кругласутачную пашу, павялічыць вытворчасць збожжа на 25, а кармоў — адразу на 30 працэнтаў, якія, вядома, закончацца чарговым правалам.

**Уладзімір ШЫМОЎСКІ.**

Криминальный рынок

## Когти

*(Окончание. Начало в №№ 65,66,68,71).*

### 5. По кличке Гапон

Николаю исполнилось семнадцать. После десятилетки он поступил на первый курс профтехучилища. Любил по "телеку" смотреть на лазурные прибрежные волны и желтые пляжи Испании и Кипра. И так ему захотелось поехать со своей девушкой на юг, хотя бы в Крым!.. Но где взять деньги?

Эта мысль постоянно сверлила мозг. Подрабатывать где-нибудь на заводе? Так это просто смешно. Там платят копейки и то с большой задержкой. Мотаться по свету с "мешочниками"? Таможня с рэкетом оберет, да еще налоги плати.

Его однокурсник Вадим предложил угонять автомашины с целью продажи. "Говорят, это самый доходный бизнес", — убеждал он. Идея обоих захватила. Решили убить шапочного знакомого Виталия и завладеть его "Опелем". Разработали план.

В один день подошли к нему, разговорились. Сказали, что у них точно такая же машина. Не мог бы он подъехать посмотреть и оказать помощь в ремонте. Обещали неплохо заплатить за услугу. Шофер "клюнул". На второй день утром втроем подъехали к дому Вадима, зашли "на кофе" в его квартиру.

К визиту гостя семнадцатилетние "бизнесмены" хорошо подготовились. Вадим накануне купил у какого-то парня по кличке Гапон дубинку. За небольшую плату Гапон подсказал, как изготовить прочную удавку. По его совету использовали крепкие шнурки, на концах которых привязали гаечные ключи.

Когда шофер читал за журнальным столиком газеты, Николай подкрался и нанес дубинкой три удара по голове. А Вадим набросил удавку и стал душить...

После сняли с него кожаную куртку, обручальное кольцо и золотую печатку, забрали деньги. Труп в мешке вынесли из квартиры и отвезли за пределы Минска, спрятали в лесу. Куртку и золотые вещи продали "лицам цыганской национальности". На вырученные деньги купили спиртное и продукты.

На следующий день на приобретенной таким образом машине поехали к гаражу знакомого, где сбыли аккумулятор, противоугонное устройство, инструменты, которые обнаружили в багажнике "Опеля". Заодно решили подыскать покупателей на машину.

Однако с ее продажей возникли сложности. Соприкоснувшись с "автомобильным рынком", молодые "бизнесмены" поняли, что здесь все куда сложнее и круче, чем им казалось.

...Мысли Николая все настойчивее кружились в одном направлении, не давал покоя металлический сейф, который держал в своей квартире отец. Парень знал, что в нем хранятся доллары. Причем не только отцовские, но и его знакомых. Однако старик все время таскал с собою ключ от него.

Вот мы и снова натолкнулись на популярную тему: надо ли детей вводить в курс всех семейных дел. Родители и не думали скрывать от сына свои сбережения. И в результате...

С помощью "опытных и старших товарищей" Николай изготовил дубликат ключей и вскрыл сейф. Там обнаружил большую сумму рублей и 13 тысяч долларов. Добытые средства перенес в автоматическую ячейку одной из камер хранения.

Выехать к морю не успел. Его быстро нашли оперативные работники.

Вся наша действительность постоянно убеждает молодых людей, что честным путем на красивую жизнь не заработаешь. А жить красиво так хочется! Видимо, поэтому не удается сохранить деньги на черный день даже в сейфе. И даже от сына.

...Хотела красиво жить и Ирина, уроженка Самарской области, жительница Стародорожского района. Правда, красоту жизни она понимала по-своему. Ее не так манили песчаные пляжи и голубые волны, как посиделки со спиртным и разборки с сожителями. Она проживала с одним и "встречалась" с другим. Первому не нравилось такое поведение. Он ревновал, скандалил, а она не переносила подобного вмешательства в личную жизнь. Понятно, что так не могло продолжаться бесконечно. В одну из пьяных июньских ночей произошла развязка.

Не знаю, был ли у нее свой "Гапон" или сама все продумала, но убийство сожителя произошло довольно оригинально, как в кино.

Пили вчетвером. Вместе с ней были сожитель и знакомый тракторист Павлов, с которым встречалась, а также подруга. Сама она была ласкова и общительна. Но при этом умело подливала сожителю побольше. Ближе к полуночи тот "отбросил копыта". Она попросила подругу отвести его на сеновал, что та и сделала. После ухода последней домой приласкала и подзадорила хмельного тракториста. После чего, взяв топор, потащила его на сеновал. Там сунула топор ему в руки и уговорила прикончить сожителя. Дружок стукнул несколько раз обухом по голове храпящего. Когда тот замолк, стащили тело вниз, закопали прямо в сарае.

Шли дни, подружка при встрече спрашивала: а где сожитель?

— Укатил в Россию, — отвечала Ирина.

— Так вроде бы никуда не собирался?

— А вот взял да и укатил, — зло отвечала ей.

Ирина чувствовала, что подруга догадывается о том, что произошло той ночью. Это начинало ее беспокоить, еще взболтнет где. Опасаясь разоблачения, решила прикончить и ее. Назначила встречу, разговорились на разные женские темы, а потом взяла приготовленный топор и с размаху врезала по голове, затем еще раз... Подруга повалилась, а ее десятилетняя дочь, увидев все это, с криком бросилась из дома. Ирина настигла ее на дворе и зарубила. Возвратясь в дом, добила лежащую подругу. Оба трупа закопала в сарае.

После этого зашла в дом убитой, взяла вещи, которые приглянулись, нашла 50 тысяч рублей и 100 немецких марок, пару бутылок водки. Сели с трактористом, выпили и запели.

Не знаю, обратили ли вы, уважаемые читатели, внимание на "Гапона". На рынке криминальных услуг появилась уже такая, "гапоновская". Вы можете заказать киллера, а можете и сэкономить деньги, за значительно меньшую сумму получить квалифицированную консультацию о том, как разделаться со своим "другом", приобрести необходимый "инвентарь".

Так что пока теоретики при власти дискутируют, что мы строим — рыночный социализм или социалистический рынок, на лице самого рынка все отчетливее проглядывается криминальный оскал. Его видят уже даже юнцы. Я приметил, что шестнадцатилетний школьник, живущий в нашем дворе, с гостями-сверстниками разговаривает только в коридоре.

— Чего не приглашаешь ребят в дом? — поинтересовался как-то у него. И услышал:

— Да вы что?! Чтобы увидели мой видик и сболтнули где?

А днями идет он с отцом по двору. До меня доносятся его фразы:

— Папа, давай поставим металлические двери... Как зачем? Мы же собираемся компьютер покупать... Вначале же надо двери... Неужто не понимаешь?

Вот такая понятливая растет молодежь. Она, в отличие от пожилых, хорошо видит, какой рынок строится вокруг.

**Иван МАКАЛОВИЧ.**

*Оружие, конфискованное милицией у криминальных элементов.*
**Фото IREX/ProMedia.**

## Беларускія канапы "паплывуць" на Волгу

Гомельская мэблевая фабрыка "Прагрэс" і акцыянернае таварыства "Мазырдрэў" прадставяць сваю прадукцыю на выстаўцы "Зроблена ў Беларусі", якая адкрыецца 7 мая ў Валгаградзе. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў дзяржаўным канцэрне "Беллеспаперапрам", куды ўваходзяць абодва прадпрыемствы, іх прадукцыя вызначаецца высокай якасцю і павінна спадабацца валжанам.

**Андрэй ВАРАТНІКОЎ.**

## Няма грошай – разлічвайся за працу зернем, бычком...

Камітэт па сельскай гаспадарцы і забеспячэнні насельніцтва харчаваннем Віцебскага аблвыканкама рэкамендаваў шэрагу гаспадарак вобласці "пашырыць практыку выдачы заработнай платы натуральнай — зернем, бульбай, жывёлагадоўчай прадукцыяй".

Такая рэкамендацыя ў пік веснавой сяўбы тлумачыцца цяжкасцямі, якія адчувае шэраг калгасаў і саўгасаў у адшукванні грошай на выплату зарплаты працаўнікам вёскі. На ўмовах, дзеючых у калгасах і саўгасах, рэкамендавана рабіць і аплату працы механізатараў, прыцягнутых з боку, — іх з гарадоў і раённых цэнтраў вобласці на пасяўную прыцягнута звыш за 500 чалавек. У той жа час цэны, па якіх іхняя зарплата будзе выдадзена ў выглядзе натураплаты, у дакуменце аблсельгасхарчу не агаворваецца.

**Яўген ГАЙ, БелаПАН.**

Давайте разберемся

## Прокуратура блюдет закон или выполняет "цу"?

Избирательная кампания по выборам президента Республики Беларусь подобна горящему торфянику: снаружи вроде бы чуть тлеет, а внутри горит, захватывая широкое пространство. Власти всеми силами пытаются затушить этот тлеющий процесс. В ход идут все средства, в том числе прокурорские предупреждения "о недопустимости нарушения закона".

В перекрестье прокурорского надзора попал и депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва В.М.Герасименко. Как сказано в тексте официального предупреждения, объявленного ему прокурором Петриковского района А.А.Мариничем, он "агитировал" членов Петриковской районной комиссии по выборам президента Республики Беларусь стать членами этой самой комиссии. В результате, оказывается, нарушил статью 81 Конституции Республики Беларусь и статью 8 Закона "О выборах президента Республики Беларусь".

Видите ли, прокуратура района не смогла снести таких нарушений Конституции и закона и предупредила депутата Верховного Совета В.М.Герасименко о недопустимости указанных действий, разъяснив ему, что "в случае участия в незаконных выборах и агитации" он будет привлечен к административной ответственности на основании статьи 167-3 Кодекса об административных правонарушениях и даже к уголовной — по статье 190 Уголовного Кодекса.

Вот такие получаются "пироги". Прокуратура решительно встала на защиту Конституции и законов, а депутат В.М.Герасименко, как и множество других граждан Беларуси, принявших участие в кампании по выборам президента, стал почему-то нарушителем Конституции и законов. Кто же из них блюдет закон, а кто прикрывается законом? Попробуем разобраться.

Статья 81 Конституции, на которую ссылается прокурор А.А.Маринич, предусматривает, что президент Республики Беларусь избирается на пять лет непосредственно народом. Но ведь с этим никто не спорит. Депутат В.М.Герасименко тоже настаивает на выполнении этого требования Конституции — выборы президента должны проводиться через пять лет со дня принесения им присяги на верность Конституции. Все помнят, что в новейшей истории Беларуси это событие произошло 20 июля 1994 года.

Так кто же лукавит? И в чем здесь нарушение Конституции?

Далее прокурор ссылается на статью 8 Закона "О выборах президента Республики Беларусь", который был принят 29 марта 1994 года (см.: Ведомости Верховного Совета Республики Беларусь. 1994, №10, ст.146). Открываем указанную статью и читаем: "Выборы президента Республики Беларусь назначаются Верховным Советом Республики Беларусь не позднее чем за пять месяцев и проводятся не позднее чем за два месяца до истечения срока полномочий предыдущего президента".

Но ведь и депутат В.М.Герасименко, видимо, руководствовался этой статьей! Судите сами. Выборы президента, как и положено, назначил Верховный Совет, пусть и в урезанном составе (такая ситуация не противоречит Конституции и закону о Верховном Совете. — **М.П.**). Заметьте, назначил не позднее чем за пять месяцев до окончания срока полномочий предыдущего президента, т.е. А.Г.Лукашенко.

Так в чем же нарушение Закона? Депутаты Верховного Совета, назначившие выборы президента, соблюли его в полной мере, и с правовой точки зрения претензии к ним безосновательны.

А на чем основана прокурорская угроза привлечь депутата В.М.Герасименко к административной ответственности по статье 167-3 Кодекса об административных правонарушениях?

Напомню, что эта статья предусматривает ответственность за нарушение законодательства о выборах, в частности, за публичные призывы к бойкотированию выборов, за воспрепятствование работе избирательных комиссий, непредоставление комиссиям необходимых материалов либо невыполнение их решений должностными лицами государственных или общественных органов.

Но ведь депутат В.М.Герасименко выступал именно за проведение президентских выборов, а вот органы власти, в том числе прокуратура, всячески препятствуют проведению выборов и, следовательно, сами нарушают законодательство о выборах. Получается, что прокуратура вынесла предупреждение не по адресу. Более того, она не учла, что В.М.Герасименко имеет статус депутата (что записано в тексте предупреждения), а значит, к нему надо относиться с "особым уважением".

Необоснованным следует признать предупреждение В.М.Герасименко и по статье 190 Уголовного Кодекса, которая устанавливает ответственность за самовольное присвоение звания или власти должностного лица.

Наверное, прокурор в бытность студентом юридического факультета изучал преступления с формальным составом, когда законодатель признает преступлением оконченное деяние без учета его последствий. Так вот, преступление, предусмотренное указанной статьей, является именно таковым. Оно или есть, или его нет. Поэтому просто абсурдно предупреждать гражданина за уже совершенное преступление. В таком случае надо возбуждать уголовное дело.

Другое дело, что здесь нет самовольного присвоения звания или власти должностного лица. Прокурор сам признал В.М.Герасименко депутатом. Так позвольте спросить, какую власть он захватил?

Анализ данного официального предупреждения позволяет утверждать: **некоторые прокуроры "забыли" о том, что их поставили на должность для обеспечения законности, а не для использования своих должностных полномочий в угоду политическим интересам каких-либо лиц или группировок.** В этом случае прокурор вынес явно незаконное и необоснованное предупреждение. Более того, можно полагать, что он допустил злоупотребление властью, то есть умышленное использование своего служебного положения вопреки интересам службы и во вред правам и законным интересам граждан.

Закон о прокуратуре предусматривает единственный способ исправления прокурорской ошибки — отмену незаконного решения вышестоящим прокурором. Для этого следует подать жалобу, либо вышестоящий прокурор сам может проявить инициативу и принципиальность.

Можно ли надеяться, что предупреждение в отношении депутата В.М.Герасименко будет отменено и законность восторжествует? В это мне верится с трудом, поскольку принятие таких решений продиктовано не столько правовыми основаниями, сколько политическими установками, исходящими "сверху". До тех пор, пока прокуратура будет чувствительна к "цу" (ценным указаниям), едва ли у нас в стране будет обеспечена надлежащая законность.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук, профессор, легитимный судья Конституционного суда Республики Беларусь.**

